


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 11 (1098) ГОД XXII БЕЛАСТОК 13 САКАВІКА 1977 г. ЦАНА 60 гр.

## Скаржынскія

Пачынаючы з 1945 года, калі пераняў з рук бацькі гаспадарку і стаў поўным гаспадаром дзесяцігектаровага палетка, Францішак Скаржынскі, жыхар Вулькі, што ў Юхноўскай гміне, дзень па дню, год па годзе, пачаў пракладаць дарогу ў новае гаспадаранне.

— Пачаткова было цяжка, — гаворыць, паглыбляючыся ў мінулае. — Зямлі, праўда, было нямала. Яшчэ дакупіў 3 гектары. Разам трынаццаць — гаспадарыць можна. Але будынкі...

Будынкі былі старыя. Аджыўшы свой век, хіліліся памалу да зямлі. А гаспадарка без будынкаў — што калодзеж без вады. І ўзяўся будаваць клуню. Найгоршыя цяжкасці былі з дрэвам. Лесу блізка не было. Даводзілася ездзіць далёка. Але неяк памалу ўсё ўладкавалася. У 1947 г. клуня была гатовая, ды яшчэ якая! Ад мяжы да мяжы — дваццаць шэсць метраў на дзевяць. Але, калі сабраў першы ўраджай, больш чым палова клуні засталася пустой, што было штуршком да новых спосабаў гаспадарання. Мінеральныя ўгнаенні, механізацыя, тэарэтычная падкладка, парады аграномаў... Па аблогах, якія, быццам скваркі ў кашы, былі наўтыканыя ў трынаццацігектаровую гаспадарку, і след прапаў. Зашумела збажына, закрасаваліся пярэстыя лугі, зацвітала бела-лілійнымі вочкамі бульба, залапатала на ветры лапчастае лісце буракоў — аж душа цешыцца. А калі час звозкі ўраджаю наступіў, паловы пакласці не было дзе. Ураджаі добрыя. Вось хоць бы ў мінулым годзе: 32 цэнтнеры з гектара пшаніцы, ячменю — 35, аўса — 30. Буракі таксама нядрэнныя. З 0,75 га 300 цэнтнераў сабраў.

Клуня, зразумела, у гаспадарцы — рэч вялікая, але не з'яўляецца ўсім. Самому ж таксама трэба недзе жыць. Пачаў збіраць дрэва на дом, будаваць які закончыў у 1949 г. А потым і аб

(Працяг на стар. 4)



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77

*Калектыў з Дубяжына на цэнтральным аглядзе заняў першае месца (разам з калектывам з Арэшкава) у катэгорыі фальклорнай песні.*

*Фота К. Свідэрскага*

## Краязнаўчы слоўнік

## Барок

Не спадзявайцеся там смалістага бору або нават невялічкага барка ці хоць бы некалькі рослых сосен! Гэтая вёсачка з дваццаццю дзвюма гаспадаркамі прысела каля луга, а вакол, як вока сцягне, прасціраюцца палі, паперарэзваныя дзе-нідзе лужкамі ды далінкамі.

Барок знаходзіцца ў якіх 7-8 кіламетрах на захад ад Гайнаўкі. У назве захаваўся след каланізацыі колішняй *Бельскай пушчы*, а пра яго ўзнікненне можна сказаць з упэўненасцю толькі тое, што ў *„Люстрацыях ваяводства Падляшскага“* ад 1570 і 1576 гадоў пра Барок яшчэ нічога не знаходзім, але ў дакуменце з 1616 года ён ужо ўпамінаецца. Падобна, як суседнія з ім мясцовасці, між іншым, Дубічы Асочныя, Пасечнікі, Ягаднікі, была гэта маёмасць *гаспадарская*, г.зн. вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх і падлягала тадышняму *Бельскаму лясніцтву*, а дакладней — яго фальварку Ляды. Праўдападобна, у Барку „сядзелі“ *асочнікі, стральцы* ды *лазебнікі*. Абавязкам асочнікаў было за зямлю, з якой яны жылі, сцерагчы каралеўскую пушчу ды абслугоўваць караля і яго світу ў час паляванняў, стральцоў жа, апрача абавязковага ўдзелу ў каралеўскіх паляваннях, яшчэ значна больш цяжкая і небяспечная павіннасць — хадзіць у ваенныя паходы. Пасечнікі або інакш бортнікі бралі ў арэнду „лазівы“, г.зн. пчаліныя борці ў пушчы і за гэта плацілі даніну мёдам і воскам у лясніцтва. Вядома, усім гэтым людзям жылося значна лягчэй, чым паншчынным мужыкам. Але з бегам часу такое прывілеяванае становішча тутэйшага насельніцтва пастуова заняпала, яго зраўнялі з іншымі сялянамі. Водгук тых адлеглых часоў усё ж захаваўся, яшчэ і сёння яго завуць „каралёўцамі“, г.зн. каралеўскімі падданымі.

У памяці бароцкіх старажылаў захавалася шмат цікавых звестак і легенд пра колішняе жыццё-быццё. Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя, як правіла, гаспадаркі не дзяліліся. Хоць нават у нармальнай сям'і дзеці нараджаліся амаль штогод, але смяротнасць сярод іх была страшэнная і да дарослясці дажывала вельмі мала і толькі самыя моцныя арганізмы. Калі на гаспадарцы былі два браты, дык адзін жаніўся, другі аставаўся жыць пры ім *старым кавалерам*. Калі ж былі дочкі, выдавалі іх замуж з пасажнай зямлёй і дабыткам, за выключэннем адной, да якой прымалі ў хату *прымака*. Пра незайздросны лёс гэтага чалавека ў чужой сям'і складзены дзесяткі песень і прыказак, адна з іх красамоўна сцвярджае: *„Прымацкі — хлеб сабацкі“*. Калі дома было некалькі братоў, і ўсе яны пажаніліся, усё ж жылі разам у адной хаце і працавалі на адной гаспадарцы, хоць мелі нават і дарослых сваіх дзяцей. Узначальваў такую сям'ю бацька, а пасля яго смерці — старшы брат. Калі нехта бунтаваўся супраць такога парадку, ён без зямлі і грошай, з пустымі рукамі або сам пакі-

(Працяг на стар. 5)

## Стаць відушчым

Сядзеў я сярод сялян з з усяго Беластоцкага ваяводства і такія вось думкі прыходзілі мне ў галаву.

**Дзевяць** гмін — і ўсе яны ва ўсходняй паласе Беласточчыны — празявалі свае жыццёвыя шанцы. Дацэнт Кароль Міхна з Польскай акадэміі навук, які ўздоўж і ўпоперак правандраваў Беластоцкае ваяводства, вывучаючы стан яго сельскай гаспадаркі, калі гаварыў пра гэтыя дзевяць гмін, проста заявіў:

— Гэта зусім адметны, своеасаблівы свет!

Толькі няма асноў, каб цешыцца з гэтай адметнасці, бо гэтая адметнасць напамінае мне сляпога чалавека, які баіцца варухнуцца з месца, вакол якога цёмная сцяна. Асновай гэтай своеасаблівасці з'ўяляецца тое, што тут, у гэтых дзевяці гмінах, найбольш аблогаў, найбольш гаспадарак, пра якія нельга гаварыць без сораму, бо яны ледзь сябе могуць пракарміць, а зямля тут не мае ніякай цаны. Ужо цяпер вядома, што ў такіх гмінах, як Нараўка, Нурэц, Мілейчыцы, Нарва, Заблудаў, Бельск, Чаромха, Гарадок, Міхалова і Саколка праз дзесяць гадоў астанецца ледзь п а л а в і н а сялян. Усе іншыя не бачаць для сябе жыццёвых перспектыў на гаспадарцы. Дзеці іх або ўжо паўцякалі, або збіраюцца ўцякаць у горад, без жалю пакідаючы бацькоўскія парогі.

Чаму гэта так?

У свабодную хвіліну пытаю пра гэта маіх суседзяў за сталом. Адзін з іх з Новага Корніна, а другі — з Пасечнікаў Вялікіх. Абодва яны толькі пацiскаюць плячыма. Прыехалі на гэтую сустрэчу, бо ў сваім наваколлі лічацца выдатнымі гаспадарамі. Належаць да гэтай другой палавіны жыхароў адсталай усходняй часткі Беластоцкага ваяводства, якія не пабаяліся звязаць сваю будучыню з вясковым жыццём. Абодва маладыя, абодва спецыялізуюцца ў вырошчванні збожжа і прамысловых культур.

Разам слухаем, як гаспадараць іншыя. А гутарка ідзе аб сялянскіх суполках. Часам дзіўныя бываюць гэтыя суполкі. Бацька з двума сынамі, або бацька з сынам і са шваграм ды яго братам, часам кум з кумам і яго суседам, ну і трое суседзяў або проста аднавяскоўцаў. Кожны апрацоўвае сваю гаспадарку, як даўней, зусім асобна, а дагаворваюцца, што будуць разам гадаваць свіней ці кароў або авечак, што будуць весці адкорм парасят або бычкоў на мяса, ці цялят. Для іх цяпер вельмі спрыяльныя перспектывы развіцця, менавіта, для такіх сялянскіх суполак. У Беластоцкім ваяводстве цяпер налічваецца іх 262, а будзе за два гады амаль паўтары тысячы.

**„Супольна таней і лепш!“** — гэта іх лозунг.

І сапраўды, бо сялянская суполка, калі будуе сабе хлеў ці абору за дзяржаўныя грошы, **можа лічыць на тое, што дзяржава падаруе ім (пагасіць) ад 45 да 65 працэнтаў коштаў будовы.**

(Працяг на стар. 4)

*ГАРАДСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ*



*Дом культуры „Ляснік“ у Гайнаўцы.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

## Праз тыдзень у „Ніве“

(Працяг са стар. 1)

# Стаць відушчым

Дык чаму ж не карыстаюцца такімі ільготамі?

А гэта яшчэ не ўсё. Сялянскім суполкам цяпер гарантуецца ўсё ў першую чаргу. Чуў я гэта з вуснаў самых адказных людзей, якія кіруюць палітычным і гаспадарчым жыццём Беласточчыны. У першую чаргу для гэтых суполак даюць усялякія машыны, будаўнічыя матэрыялы і дэфіцытныя прамысловыя кармы. Толькі бяры.

Не, гэта ані хабар, ані нейкае куматэрства. Проста ёсць за што і хваліць, і ўзвышаць у прызнанні. Вось што было ў мінулым годзе. Гаспадары, аб'яднаныя ў сялянскіх суполках, **з кожнага гектара свайго поля прадалі дзяржаве 1500 літраў малака, а ўсе іншыя сяляне — усяго толькі 436 літраў, ялавічыны (адпаведна) — 470 кг і 44 кг, свініны 440 кг і 48 кг. Бачыце, якая розніца!** І гэтых грошай ніхто ж у іх не забраў, яны асталіся ў іх сем'ях. **Зарабілі больш-менш у дзесяць разоў больш чым іншыя сяляне**, чым іх суседзі, якім не хапіла адвагі і... розуму.

І нічога дзіўнага, што такі гаспадар з Лапскай гміны, а зараз за ім трое іншых сялян з-пад Кнышына, Пасвентнага і Тыкоціна дамагаліся ад ваяводы не чаго іншага, а... легкавых машын і то не абы-якіх!

— Што вы там нам прапануеце „Тарпаны"! — адзін з іх звяртаўся проста да ваяводы. — Дайце нам „Фіяты" або „Волгі". Нам трэба ездзіць у горад, а грошы мы маем!

Сядзелі мае суседзі з Новага Корніна і з Палічнай. Слухалі ўсяго гэтага і бачыў я, што неяк няёмка ім рабілася, хаця яны і добрыя, у сябе прыкладныя гаспадары. А тут, аказваецца, куды ім раўняцца з усімі тымі, што не баяцца мільёны злотых браць ад дзяржавы ў займы, каб пабудаваць кароўнік на некалькі дзесяткаў штук. Можна было паглядзець, якія гэта кароўнікі. На каляровых здымках, на макетах. Поўная механізацыя, гаспадары ў белых фартухах дагледаюць кароў. Чытаю прозвішчы і назвы мясцовасцей, дзе ўсё гэта ёсць. На жаль, няма ані адной з гэтых дзевяці ўсходніх гмін Беласточчыны. Аж верыць не хочацца. **Гэта ж шанц, гэта ж сапраўдны бізнес.** Як пераканаць людзей да гэтага, як зняць у іх бяльмо з вачэй?

Вяртаюся зноў на залу. Мае суседзі з Корніна і Палічнай ужо недзе змыліся. Ці ад сораму? Не, ім яшчэ няма чаго сароміцца, бо самі ўжо выбралі правільны шлях. Застаецца аднак яшчэ з дзесяць тысяч іншых гаспадароў, якія, калі думаюць пра заўтрашні дзень, бачаць перад сабой толькі цёмную сцяну. Калі выйдуць на ўласцівую дарогу, калі стануць відушчымі?

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 1)




хлявах трэба было падумаць, затым паляпшэнні пачаў уводзіць. Цяпер усе гаспадарчыя будынкі электрыфікаваны, падведзена вада. Адным словам, усялякія аблягчэнні.

Ну і найважнейшае — жывёлагадоўля. Скаржынскія ўжо даўно задумваліся над тым, каб заняцца нечым адным, каб знайсці тую дарогу, якая была б найвыгаднейшай для калёс іхняй гаспадаркі. Гутарылі, разважалі і дайшлі да вываду, што ў сувязі з тым, што найвыдайней родзіць трава і кармавыя культуры, найлепш будзе заняцца жывёлагадоўляй, настаўляючыся на вытворчасць малака. У 1975 годзе пабудавалі сучасны, светлы, на адзінаццаць месц кароўнік з электрычным святлом, аўтаматычнымі пойламі, электрычнай даілкай. Пасялілі там на пачатак шэсць дойных кароў, ад якіх закантрактавалі дванаццаць тысяч літраў малака ў год. Норму не толькі выканалі, але намнога перавыканалі, аж на дзесяць тысяч літраў.

— А як у гэтым годзе, калі колькасць кароў павялічылася да 9? — звяртаемся да гаспадара.

— Думаю, што да дваццаці васьмі тысяч літраў дойдзе напэўна. Але мы не думаем затрымацца на дзевяці каровах. Калі адзінаццаць месц, дык хай і кароў будзе адзінаццаць.

Скаржынскія з году ў год вядуць кантрактацыю ялавічыны. У мінулым годзе прадалі дзяржаве па мяса аж шэсць штук, вагой больш як дзве з паловай тоны. На гэты год таксама закантрактавалі і прадалі ўжо паўтары тоны.

— А як выглядаюць справы з кормам?

— Усё сваё. Апрача лугоў, маем чатыры гектары, засеяныя травой, і кожны год адзін гектар адводзім пад канюшыну. Ну і, зразумела, сіласы і то пераважна з бурачанага лісця. Так што корму дакупляем нямнога. Вялікай падтрымкай з'яўляюцца бурачаныя высадкі, якіх купляем тону сухіх і чатыры тоны сырых з прызначэннем на сілас. Гаспадарка Скаржынскіх абяспечана амаль поўным камплектам сельскагаспадарчых машын, падпарадкаваных трактару, што намнога аблягчае працу рук, якіх незамнога. Сям'я, праўда, складаецца з васьмі чалавек, але дома, на гаспадарцы, застаўся толькі Францішак Скаржынскі з жонкай Янінай ды дваццацічатырохгадовы сын Тадэуш, які, пакінуўшы працаваць трактарыстам у СКР-ы, усім сэрцам аддаўся гаспадаранню.

— А што гэта яшчэ будаваць думаеце? — пытаем на развітанне, паказваючы на зложаную роўненька цэглу.

— Гараж, машыну думаем купляць у гэтым годзе.

— Ну, пэўна, трэба. За такую працу належыцца.

**Міхась Шаховіч**
Фота М. Хмялеўскага



*Францішак Скаржынскі пры працы.*



*Новы кароўнік Скаржынскіх.*

(Працяг са стар. 3)

# Гмінныя спартакіяды

Партыі шашак найбольш паспяхова сыгралі Веслава Карольчук (ЛЗС Заблудаў), Бэата Сушыцкая і Анна Гац (абедзве з Дайлідаў Гурных) ды Юзэф Гац (школьнік з Дайлідаў Гурных), Мікалай Сарванеўскі і Андрэй Баранчук (абодва з ЛЗС у Фальварках Вялікіх).

Гіру вагою 17,5 кілаграмаў найбольш разоў паднялі Яўген Андрэйчук, Бернард Барташэвіч і Гіпаліт Пашкевіч (усе з заблудаўскага СКР).

У спаборніцтвах па сяткоўцы найлепшымі былі мужчынская каманда заблудаўскага СКР і дзявочая каманда заблудаўскага ЛЗС.

Найбольш ачкоў набралі наступныя каманды: ЛЗС Дайліды Гурнэ (359 ачкоў), ЛЗС Заблудаў (205), СКР Заблудаў (175), Пачатковая школа ў Дайлідах Гурных (169), Гмінная зборная школа ў Заблудаве (89), ЛЗС Баброва (75), ЛЗС Рафалоўка (43), ЛЗС Фальваркі Вялікія (42).

Кубак начальніка гміны здабылі ЛЗС-аўцы з Дайлідаў Гурных.

* ✲ *

13 лютага адбылася гмінная спартакіяда ў Дарожках (гміна Юхновец Дольны). Удзельнічала ў ёй 91 асоба, у тым ліку больш дваццаці дзяўчат.

У розыгрышах у настольны тэніс перамагла сярод дзяўчат Юзэфа Венслаў з Юхноўца. Другое і трэцяе месца занялі: Марыя Кажанецкая з Растолтаў і Анна Клімчук з Альмонтаў. Сярод юнакоў званне найлепшага гміннага тэнісіста заваяваў Рышард Кажанецкі з Растолтаў. Другое месца заняў Антон Манькоўскі і трэцяе — Антон Сандамерскі — абодва з Галувак.

У шахматных розыгрышах перамог Януш Белючук з Растолтаў (другое месца заняў Тадэуш Мяжынскі з Растолтаў і трэцяе — Кшыштаф Малішэўскі з Альмонтаў) і ў шашках — Ян Літвінчук з Альмонтаў, другім быў Генрык Сільвонь з Лявіцкіх, а трэцім — Мечыслаў Васілеўскі з Дарожкаў.

Сярод дзяўчат у розыгрышах у шашкі першае месца заняла Бажэна Драздоўская з Альмонтаў, перад Аннай Паўлючук і Святланай Семянковіч — абедзве з Войшкаў.

Гіру вагою 17,5 кілаграмаў найбольш разоў падняў Януш Міка з Ігнаткаў, а за ім Тадэуш Мяжынскі і Эдвард Кажанецкі — абодва растолцкія асілкі.

Першае месца ў спаборніцтвах гміннай спартакіяды заваявалі ЛЗС-аўцы з Растолтаў, другое — з Альмонтаў, трэцяе — з Войшкаў, чацвертае — з Ігнаткаў і пятае — з Галувак. За імі — члены ЛЗС з Юхноўца, Дарожкаў і Беляў.

Кубак начальніка гміны атрымалі ЛЗС-аўцы з Растолтаў. Апрача таго, рэчавыя і дыпломныя ўзнагароды, якія купіла гмінная ўправа ў Юхноўцы Дольным, атрымалі ўсе адзначаныя вышэй пераможцы ў паасобных катэгорыях.

**Я. Цялушэцкі**



Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА XIII

„Атрута" — гэта адзіны ў зборніку „Рунь" твор, які мае характар п'есы. Аўтар дае гэтаму твору падзагаловак „Кароткі жалобны абразок". У п'есе выступаюць наступныя постаці: Дзед, Раман — яго сын, Ганна — жонка Тамаша, Аўдолька, Косцік, Яначка — дзеці Ганны і Рамана, Хрысціна — цётка Ганны.

П'еса „Атрута" складаецца з васьмі сцэн — праяў. Уся падзея адбываецца ў вясковай хаце. Выступаючая ў п'есе праблема не страціла да сёння сваёй важнасці і актуальнасці. Датычыць яна апусташаючай псіхічна беларускай вёскі схільнасці да п'янства. Адзін з герояў твора, селянін Раман, з'яўляецца прыкладам крайняга алкагалізму.

„Атрута" мае меладраматычны характар. Усе пачуцці, схільнасці, здарэнні выступаюць тут у крайняй форме. Усё гэта сведчыць аб няспеласці драматургічнага майстэрства маладога Гарэцкага. Трэба аднак адзначыць, што ў п'есе знаходзім многа тыпова вясковага, характэрна бытавога, паглыблена псіхалагічнага.

Аднак у суме „Атрута" з'яўляецца творам шаблонным. Адносіцца гэта перш за ўсё да выступаючых у творы постацей. Усе героі, ад пачатку да канца, маюць адны і тыя ж рысы характару. У творы не знаходзім якіх-колечы доказаў ці праяваў псіхалагічнай эвалюцыі герояў. Усе постаці п'есы — гэта сімвалы пэўных пастаянных маральных вартасцей. Аб'ядноўвае іх адно — супольнае няшчасце. Аўтар звязвае з постаццю Дзеда рэлігійныя схільнасці і клапатлівасць за лёс сям'і. Ганне прыпісвае вялікую альтруістычную прывязанасць да дзяцей, Раману — алкагалізм.

Усе найважнейшыя рысы характару паасобных постацей праяўляюцца ў момант першага знаёмства з імі. Так, напрыклад, усе схільнасці і светапогляд Дзеда выступаюць у першым яго маналозе:

„Божухна-Бацюхна! Ці будзе ж гэтаму калі канец? П'янства кожны дзень, кожну ноч... Дзеткі плачуць, Ганна хворая ляжыць — як ёй, матцы, глядзець на гэта? А ён? Охо-хо-о... Пакараў ты мяне, Справядлівы Божэ! За грахі мае брудныя пакараў ты мяне, бо калісь і я не меў сумлення, цягнуў, піў зелле паганае, будзь яно проклятае навекі... Не-е, сынок, дап'ешся апомнішся, ды каб не было тады позна. Ніколі, ніколі не падаруюцца слёзы дзетак, ой, ніколі!"

Вось у гэтым кароткім фрагменце ёсць усё. Даведваемся з яго аб мінулым Дзеда, і аб схільнасці яго сына, і аб сітуацыі ўсёй сям'і. Па сутнасці ўвесь далейшы змест п'есы — гэта толькі ілюстрацыя галоўнай экспазіцыі, якая выступіла ў прыведзеным маналозе Дзеда.

Даволі цікава ў творы абрысавана постаць п'яніцы Рамана. Аўтар умела паказвае рэзкія пераходы Рамана да супрацьстаўных настрояў і дэкларацый. Тыранічныя і нявольніцкія схільнасці чаргуюцца ў гэтай постаці безупынна. Добра аўтар прыкмеціў тыповае для алкаголікаў: заракані і пастановы больш ніколі не піць. Вось адна з многіх дэкларацый Рамана:

„Няхай буду я проклят, калі з гэтага часу не кіну піць паганае атруты да самае смерці!"

Нягледзячы на пэўныя праявы паглыбленай характарыстыкі выступаючых у п'есе асоб, у цэласці твор з'яўляецца схематычным.

П'еса канчаецца трагічна. Раман стараецца вырваць з бацькавых рук грошы, каб пахмяліцца. Пры гэтым з рук Дзеда спадае маленькае дзіця — сын Рамана. Дзіця памірае ад удара аб падлогу. Ашалелая ад роспачы хворая Ганна падае з ложка на падлогу і таксама памірае. Даведзены да крайнасці Дзед праклінае перад іконамі свайго сына.

Вось гэтая згушчанасць эмацыянальных фарбаў, канцэнтрацыя зла, накапленне няшчасцяў і набліжаюць „Атруту" да меладраматычнай літаратуры, якая любавалася ў даведзенай да крайнасці пачуццёвасці і драматычных сітуацыях.

Можам аднак гаварыць і аб розніцах. Меладраматычная літаратура абапіралася часта на фікцыі, на ігры пісьменніцкіх уяўленняў. Здаецца нам, што Гарэцкаму нельга паставіць закіду фікцыйнасці прадстаўленых падзей. У беларускіх сёлах не мала было страшных фактаў, звязаных са злоўжываннем сродка, які аўтар, ідучы за народнай тэрміналогіяй, называе атрутай.

## На новай дарозе

Каб трапіць у Паўлы, едучы з Беластока, у вёсцы Рыбалы трэба паварнуць налева, на жвіроўку, якую самі сабе будавалі жыхары гэтай вёскі. Па новай дарозе пайшлі аўтобусы, і паўлаўцам цяпер лягчэй даехаць у Беласток, Бельск і да цяперашняй сваёй гміны, якая знаходзіцца ў Заблудаве.

Але я хачу расказаць пра жыццёвую дарогу гэтай вёскі. Было тут раней больш 120 гаспадароў. Працавалі на сваіх гаспадарках даволі цяжка і жылі незаможна. Але ад таго часу, калі ўзяліся за вырошчванне трускалак, калі залажылі плантацыі, пачалі значна павялічваць свае гаспадарскія даходы, пачалі багацець. Цяпер радыё і тэлевізар, пралька і халадзільнік, прыгожая мэбля і дываны, добрае харчаванне і адзенне, прыгожыя дамы і гаспадарчыя будынкі — усё гэта ёсць амаль у кожнага гаспадара. Ёсць таксама і такія, што маюць свае ўласныя трактары і аўтамашыны.

Пры апрацоўцы зямлі максімальна выкарыстоўваецца сельскагаспадарчая тэхніка. Найбольш пра яе клапаціўся былы сельскагаспадарчы гурток. Калектыўныя сельскагаспадарчыя машыны гэтага гуртка, іх выкарыстоўванне, патрабавала калектыўнай думкі, арганізаванасці. Асабліва малодшаму пакаленню гаспадароў падабаўся гэты калектывізм. Старэйшае пакаленне гаспадароў не мела сіл клапаціцца аб перспектывах сваіх гаспадарак і сваёй вёскі. Калі толькі ўзнікла магчымасць здаваць свае гаспадаркі дзяржаве за пенсію, яны іх здалі. І ў апошнім часе засталося ў вёсцы толькі 80 гаспадароў, якія апрацоўваюць сваю зямлю.

Сярод гэтых 80 гаспадароў выдзелілася 15-асабовая група маладых, якія вырашылі пашыраць калектыўную апрацоўку зямлі. 10 сакавіка 1976 года на сходзе пастанавілі яны ўтварыць сельскагаспадарчы кааператыў I ступені і супольна апрацоўваць зямлю. Унеслі яны 147 га сваёй уласнай зямлі і 267 атрымалі з дзяржаўнага фонду.

Першай калектыўнай працай кааператыўшчыкаў была сяўба азімых культур. Засеялі 135 га жыта і 20 га пшаніцы. Цяпер перад імі — веснавая сяўба. Старшынёй кааператыву з'яўляецца Лявон Харытанюк, а членамі праўлення — Іван Галубоўскі і Іван Іванюк.

Паўлы памятаюць і прыкрыя факты калектыўнага гаспадарання да 1956 года. Тады ў прадукцыйнай спулдзельні не ладзілася калектыўная праца. Цяпер сельскагаспадарчы калектыў утвораны па жаданню яго членаў, якія хочуць гэтым чынам аблягчаць працу і паляпшаць свой быт.

Кааператыў мае апрацаваны вельмі цікавы план развіцця. Прадбачваецца тут жывёлагадоўчы напрамак. Да 1980 года запланавана падрыхтаваць будынкі на 1200 штук маладога быдла і на 750 авечкаматак. Апрача таго, члены кааператыву вядуць асобную, уласную жывёлагадоўлю, якую таксама павялічваюць. Запланавана, што кааператыў да 1980 года будзе апрацоўваць больш 800 га. Будзе пабудаваны жылы дом на 12 сем'яў. У будучыні патрэбны будуць сельскагаспадарчыя спецыялісты, таму ўжо цяпер падумалі аб забеспячэнні іх жыллём.

Цяпер галоўная задача кааператыву — павялічыць колькасць сельскагаспадарчай тэхнікі, а таксама падрыхтаваць дакументацыю на будучы цэнтр кааператыву з усімі патрэбнымі будынкамі.

**М. Хмялеўскі**

## Кажуць, што...

ВЗГС — аддзел гандлю ў Гайнаўцы — узняў барацьбу з атручваннем асяроддзя. Такі вывад менавіта зрабілі курцы з Белак. Матывацыя? Ужо больш месяца ў мясцовай краме няма папяросаў „Спорт".

**М. Лук'янюк**

## Сыр з Міхалова

Малачарскае прадпрыемства ў Міхалове выпускае так званы клінковы сыр. Ён тлусты, смакавіты. Такі, якія робяць вясковыя гаспадыні. Нічога дзіўнага, што яго мігам раскупляюць і ў беластоцкіх „дэлікатэсах", і ў малачарскіх фірмовых крамах. Вельмі шкада, што міхалоўскаму малачарскаму прадпрыемству дазволена даваць малую прадукцыю гэтага сыра — усяго трыста кілаграмаў у суткі. Гэта вельмі мала. Чаму ж не дазволіць на большую прадукцыю, калі ёсць вялікі попыт? Гэтае пытанне накіроўваем да дырэкцыі малачарскай спулдзельні ў Беластоку. На нашу думку, варта над гэтым падумаць, ды й адмяніць ранейшы загад. На рынак павінны трапляць такія прадукты, якія людзі хочуць купляць. (ця)

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ВЯСНЯНКА („ОГУЛЬКА")

*Там у городі росцвілі гвоздікі —*
*купіў Васечка Ніночці чэрэвікі.*
*Ой, купіў, купіў на высокіх пудкоўках,*
*коб походжала по новых пудворках.*
*— Бодай, Ніночка, здорова сходіла —*
*на другі рочок мне сорочку вышыла.*
*Ходіт Васечка — вышыта сорочка.*
*А хто вышывау? — Александрова дочка!*

Мелодыя песні — як да раней апублікаванай „огулькі" *„Ой, там на горьэ, на белуй камэньці..."*

Ад Шумарскай Мар'і, год 46, родам з вёскі Койлы, жыве ў вёсцы Буды ў Белавежскай пушчы, запісаў 12 кастрычніка 1976 г. Мікалай Гайдук.

(Працяг са стар. 1)

## Барок

даў бацькоўскі кут або яго выганялі родныя. Незайздросны лёс чакаў такога чалавека — вечнае парабкаванне ў чужых.

Усё поле дзялілася на тры палеткі: „жытняе", „ярына" і „парыніна". У „жытнім" расло азімае збожжа: жыта і пшаніца, у „яравым" — яравыя і картофля, а „парыніна" ляжала аблогам, на якім пасвілі жывёлу ды рыхтавалі пад „жытняе". Першы раз на яе выходзілі з сахой, калі ўжо „залажылі" ярыну, другі — перад жнівом — „ралілі" і баранавалі, а трэці раз, ужо падвосень, аралі „ў загон", пад жыта. На „жытнім" „стэрню" прыворвалі восенню, на „яравым" увосень не аралі. Гной клалі пад азімае збожжа і вясною пад картофлю, ячмень, а калі яго было ў гаспадарцы болей — заворвалі і пад іншыя яравыя. Аручы пад збожжа, стараліся, каб *загоны* былі вузкія (у шэсць скібаў), высокія і выпуклыя, а паміж імі праляталі глыбокія барозны. Хоць збожжа ў асноўным расло на самым версе загона (на „складзе"), але гэта быў адзіны ратунак ад вымакання пасеваў. І ў жніво прыдавалася: усе жанцы з сярпамі станавіліся жаць на аднолькавай шырыні загонах. Нават у „жніўначках" спявалі: *„Ой, жнісе, жнісе, загоньцю вузэнькі, а хто ж тэбэ орау? — Іванко молодэнькі"* або *„Ой, жнісе, жнісе, загоньцю шырокі, а хто ж тэбэ орау? — Іван крывобокі"*. У старым анекдоце расказваецца, як адзін багаты ды скупы *кмець*, згадзіўшы да сябе жанцоў, пайшоў пытаць у суседзяў, як дзень падоўжыць, каб найміткі болей нажалі. Суседзі і кажуць яму: „Як пойдзеш за імі вязаць, абавязкова адзенься пацяплей". І вось дзесяць жніц махаюць сярпамі, як дадуць рады, бо пабойваюцца скупіндзі-гаспадара. А ён у валёнках, кажусе ды *жупіцы* (з даматканага сукна доўгая да пятаў світка, якую ўздзявалі на кажух у траскучыя маразы, едучы ў далёкую дарогу) вяжа жарабіком жмені ў снапы. Вяжа, потам абліваецца, але і віду не падае, што яму надта цяжка, і дзень вельмі доўжыцца. Аднак урэшце ён не стрываў і, хоць сонца было яшчэ высока над лесам, закрычаў жанцам: „Канчайма!" Так на падвячорак і закончыўся самы доўгі жніўны дзень.

Так, шмат чаго можна пачуць у Барку пра часы вельмі даўнія і менш адлеглыя. А гэтым згадкам ды ўспамінам, нашай непаспешлівай сяброўскай гутарцы, спадарожнічала шчырае захапленне тымі вялізнымі пераменамі ў штодзённым жыцці і працы, якія наступілі ў апошняе трыццацігоддзе і якія кожны дзень упісваюцца нечым новым у Барку і яго наваколлі. Не будзем пералічваць, колькі сельскагаспадарчых машын на падворках, а тэлевізараў, пральных машын і іншага сучаснага абсталявання па належна абсталяваных мэбляй даўнейшых, але акуратных, і новых — прасторных і светлых дамах знаходзіцца ў **Абрамюкоў, Аніщчукоў, Галёнкаў, Грыгарукоў, Ігнацюкоў, Мацюкаў, Місеюкоў, Несцерукоў, Скепкаў, Харытанюкоў, Чуракоў, Янюкоў** і іншых баркаўчан. На заможнае і культурнае жыццё яны заслужылі сваёй працавітасцю і дбайнасцю. Ніхто тут не адчувае сябе нявольнікам вёскі, але ўсе вельмі высока цэняць зямлю як варштат працы. Прыклад гэтаму тое, што пасля здачы зямлі дзяржаве за пенсію двума прастарэлымі гаспадарамі, адразу знайшліся на яе ахвотныя ў Барку і ў суседніх Пасечніках, яна загаспадарана. Шмат хто з маладых, закончыўшы сярэднія і вышэйшыя школы, як, напрыклад, **Андрэй Місеюк** — выпускнік Беластоцкай палітэхнікі ці **Вольга Чурак** — выпускніца Пасляматуральнай медыцынскай студыі ў Беластоку, працуюць у Гайнаўцы, Бельску, Беластоку і далей.



*На вуліцы ў Барку.* *Фота аўтара.*

Мілая гэта вёсачка з паэтычнай назвай Барок!..

**Мікалай Гайдук**

## Беларусіяна

### Вітражы

Тыднёвік „Літаратура" ў нумары 6/261 за 10 лютага г.г. апублікаваў падборку мініяцюр Янкі Брыля з кніжкі „Вітражы". Варта адзначыць, што падобныя падборкі з брылевых „Вітражоў" у мінулым годзе друкавалі „Літаратура на свеце", „Камена" і „Пшыязнь". Публікаваныя фрагменты „Вітражоў" пераклаў С. Яновіч. Поўнасцю кніжку выдасць „Чытэльнік" у канцы гэтага года. (М.Ш.)

### У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*Ачыстка лесу.* *Фота Р. Сянько.*

**У Сямяціцкай гміне**

### АЎТАМАТЫЧНАЕ СПАЛУЧЭННЕ

На пачатку лютага аддадзена ў карыстанне аўтаматычная тэлефонная станцыя ў Сямяцічах. Цяпер у горадзе можна спалучыцца непасрэдна з кожным абанентам. У Сямяцічах налічваецца іх 920. У хуткім часе можна будзе аўтаматычна спалучыцца з Беластокам і Варшавай.

### ЗАЕЗД „КМЕЦІЦА"

У канцы лютага ў Сямяціцкай гміне, на скрыжаванні дарог недалёка ад вёскі Вялікая Турна, адкрыўся багата абсталяваны заезд. Ёсць там рэстаран, танцавальная зала, кавярня і 38 гасцінных пакояў для начлежнікаў. Заезд атрымаў назву ад гістарычнай постаці героя „Патопу" Г. Сянкевіча. У фільме гэтую постаць іграў Данель Альбрыхскі. Ён, ураджэнец Драгічына, таксама дапамог у будове гэтага заезда.

Такім чынам, адкрыты яшчэ адзін пункт абслугоўвання турыстаў.

(МХ)

## Ці ведаеце, што...

*...у 1976 годзе беластоцкія спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў узялі для загаспадарання 6040 гектараў зямельных угоддзяў і цяпер маюць іх усе разам узяўшы 18 710 гектараў.* (ця)

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ — TRUBADURZY



Заказвала Валянціна Касцючук з Клейнік.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Мне дванаццаць гадоў. Аднойчы прысніўся мне такі сон. Стаю я каля клуні. Бачу: бягуць два сабакі. Я перапужалася і пачала ўцякаць. Цяжка мне было бегчы, бо на зямлі ляжаў снег. Бачу: каля варот стаіць мая сяброўка. Прашу яе, каб перапусціла мяне, але яна не хоча. Пачала я лезці на вароты, але не мела сілы і ўпала. Сабакі былі ўжо блізка і я падумала: „Цяжка такой маладой уміраць“. Крычаць я не дала рады, бо рот быў запханы снегам. Тыя сабакі кусалі і цёгалі мяне. Сяброўка прапала. Надыходзіў вечар. І я прачнулася. Што можа абазначаць мой сон?

Я. Х.

Астроне, сніцца мне, што я быў і рабіў печку ў сястры. Была там мая мама, вельмі старая і сумная. Калі я ад'язджаў дамоў, мама не хацела ехаць. Вельмі я плакаў і наракаў, дома ж было шмат работы — быў спелы доўгі загон лубіну, трэба было жаць. Сястра жыла нібы ў лесе, а жыве на калоніі. Дамоў меў ехаць ці фурай ці маторам. Я прачнуўся. Дарагі Астрон, адпішы, што гэта значыць, маю слабое здароўе.

Ш. В.

Дарагая Я. Х.! Хаця і маладзенькая ты, то ёсць у цябе нейкія ворагі (мо ты што каму кепскае зрабіла?) Аб гэтым сведчаць тыя сабакі, што нападалі на цябе, кусалі і цягалі, а ты ўцякала ад іх. Чакае цябе нейкае небяспечнае падарожжа, а мо нейкая цяжкая справа. Глядзі, каб не прастудзілася (рот быў запханы снегам), бо можаш захварэць.

Ш. В.! Вы, дзядзька, не хвалюйцеся. Мо ўсё не будзе так дрэнна, як вам здаецца. Прынамсі, не думаю, каб пагоршылася ваша здароўе. Думаю, аднак, што будуць у вас нейкія клопаты, звязаныя з гаспадаркай (вы ж бачылі маці старой і сумнай). Трэба спадзявацца аднак, што ўсё ў гаспадарцы наладзіцца, бо рабілі вы печку і вельмі плакалі.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### НЕКАЛЬКІ ДОБРЫХ РАД ДЛЯ ГАСПАДЫНІ

● Як ліквідаваць запах малака, якое прыгарэла? Дастаткова пераліць малако ў чыстую каструльку, накрыць зложанай у чатыры разы вільготнай сціркай і закіпяціць у такім стане ізноў.

● Тлушч, на якім мы смажылі бульбу, можна выкарыстаць ізноў пры ўмове, што будзе ён празрысты. З гэтай мэтай у каструльку ці на патэльню, дзе застаўся тлушч, кладзем лупіну яечка.

● Каб нажы і відэльцы блішчэлі, можна палажыць іх на 10 мінут у каструльку, дзе варыцца бульба.

● Тарку пасля таго, як мы сцерлі на ёй галандскі (жоўты) сыр, можна лёгка ачысціць, сцершы на ёй пасля сыра палавіну сырой бульбіны.

● Кухонныя фіранкі вельмі хутка становяцца шэрымі. Каб вярнуць ім белізну, варта намачыць іх нанач у халоднай вадзе з соллю.

● Нікеліраваныя часткі газавай пліты, а таксама краны добра было б працерці час ад часу анучкай, намочанай у падагрэтым воцаце. Пасля гэтага трэба іх спаласнуць халоднай вадой, выцерці, адпаліраваць сухой фланелькай.

● Такім жа чынам, г.зн. пры дапамозе падагрэтага воцату (дадаць крыху солі) можна ліквідаваць жоўтыя плямы з эмаліраванай паверхні ванны ці ракавіны.

● Крыху завяўшую зялёную салату дастаткова палажыць на некалькі мінут у цёплую ваду, якая верне ёй свежасць.

● Нават без халадзільніка можна мець у хаце халодную ваду. Дзеля гэтага ўстаўляем бутэльку з вадой у вядро з пяском, зверху пасыпаем пясок 0,5 крышталічнай солі і паліваем вадой. Праз паўгадзіны вада ў бутэльцы будзе халодная.

● Кампот будзе цудоўна смачны, калі дадамо да яго апельсінную скурку і паўшклянкі віна.

● Каб на соусе не збіралася пена, пацягваем яго паверхню маслам (кавалачкам масла, наколатым на відэлец, некалькі разоў дакранаемся да паверхні соусу).

● З лімона можна выціснуць максімальную колькасць соку, калі перад гэтым памесцім яго на 5-6 мінут у цёплую ваду. Варта дадаць, што пры гэтым лімон будзе мець яшчэ больш інтэнсіўны арамат.

● Звараны рыс нельга паласкаць халоднай вадой (толькі цёплай), паколькі паласканне ў халоднай вадзе пазбаўляе рыс у 50-60% вітаміна $B_2$.

**Гаспадыня**

## Сардэчныя тайны

Дарагое „Сэрцайка! Вучуся я ў трэцім класе ліцэя і хаджу з хлопцам з чацвертага класа. Пачалі мы сябраваць ад пачатку гэтага года. Ён з суседняй вёскі, і мы часта бывалі разам на забавах. Ён заўсёды паводзіў сябе культурна, але вось на апошняй забаве ў яго вёсцы, было гэта на „запусты“, мне здаецца, паступіў ён нетактоўна. А было гэта так. Ужо пару тыдняў раней запрасіў мяне на гэтую забаву. Я была вельмі задаволена, што будзем разам бавіцца, бо яшчэ ў гэтым годзе нідзе разам на забаве не былі, толькі на „стаднёўцы“ ў яго. На забаву пайшла я з дзяўчатамі і хлопцамі з нашай вёскі. Валодзі (так ён завецца) яшчэ не было. Гумар у мяне папсаваўся, танцаваць з іншымі мне не хацелася, але і не выпадала не пайсці, калі каторы хлопец падыйдзе. Урэшце з'явіўся Валодзя, падхмелены, і ўбачыў, што я танцую. Са злосцю на мяне паглядзеў і ўжо да мяне не падышоў. Танцаваў таксама з іншымі дзяўчатамі. А пад канец забавы, ужо і добра гарэлкай набраўшыся, падыйшоў да мяне ды давай лаяць, што я брыдка захавалася. Мне было вельмі сорамна, бо чулі гэта і дзяўчаты і хлопцы. У школе ўжо я яго не бачыла. Але аднойчы прыйшоў да мяне ў клас яго сябра і сказаў, што Валодзя просіць, каб я выйшла ў вызначанае месца на спатканне. Нічога я яму не абяцала і на спатканне не пайшла, бо ж крыўдна мне было за яго ўчынак, ды і ён жа сам мог да мяне прыйсці, а не „пасланца“ высылаць. А як ты, Сэрцайка, бачыш гэту справу?

Марылька з ліцэя

Марылька! Пэўна, сорамна Валодзю за яго брыдкі ўчынак і нічога дзіўнага, што сароміцца цяпер глянуць табе ў вочы. Таму „пасланца“ высылае. Добра зрабіла, што не пайшла на спатканне. Абразіў ён цябе моцна. Па-першае, калі запрасіў на забаву, дык павінен перш за цябе там з'явіцца, па-другое, ліцэіст п'яны — вельмі адмоўная з'ява, і, па-трэцяе, калі і меў нейкія прэтэнзіі (тут зусім беспадстаўныя), павінен сказаць табе сам-насам. Калі столькі нарабіў, хай жа адважыцца сам падыйсці і папрасіць у цябе прабачэння.

**Сэрцайка**

## Этнаграфічнае акенца



*Вёска Лозіцы на Гайнаўшчыне.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## ЛЯВОН БРУЦЯН, ВІКТАР САМАРЫН

# У ЧУЖЫМ МУНДЗІРЫ



...Машыну гайданула. Любке ўспомніў развaрочаныя маставыя Берліна. А тут зачараванае нейкае месца. Ніводнага артналёту, ніводнай бамбардзіроўкі. Няўжо пранюхалі пра зону „А“?

Ён ведаў, што рабіць, калі не ўдасца пагрузіць першыя ўзоры ў эскадрыллю новенькіх „фоке“, якія застылі на ўзлётнай пляцоўцы пад маскіровачнай сеткай. Узарваць да д'ябла. Для сябе хопіць адной кулі з „вальтэра“. Ён зморшчыўся, успомніўшы парады шэфа. Яны сустрэліся ля чыгуначнага насыпу. Шэф — у паношаным, старэнькім пінжаку. Любке нават не адразу пазнаў начальніка.

— Хай Гітлер, пан групенфюрэр!

Не адказваючы на прывітанне, шэф ціха сказаў:

— Спадзяюся, надзвычайная місія, даручаная вам, зразумела? Яўкі і паролі застаюцца ранейшымі. І не глядзіце на мяне, Любке, такімі вачыма. Мне гэты маскарад падабаецца не больш, чым вам. Барацьба працягваецца, выконвайце заданне, Любке. Сёння многае залежыць ад вас...

Машына застыла на месцы, варочаючы над дахам антэну.

— Ёсць, — усхвалявана далажыў яфрэйтар. — Засеклі!

Любке ўпёрся лбом у шкло. Машына стаяла ля пад'езда мясцовага аддзялення гестапа.

...Камандзір дывізіі генерал Музыкін цяжка абапёрся на невялікі столік, на ўсю даўжыню якога была рассцелена карта. Побач з ім сядзелі і стаялі чацвёра афіцэраў са штаба і разведаддзела, ад'ютант генерала, падобны на старшакласніка лейтэнант, і хударлявы лысаваты чалавек у нязвыклым у гэтай абстаноўцы цывільным касцюме.

Усе маўчалі. Ціпыню парушаў толькі звон лыжачкі ў пустой шклянцы кожны раз, калі недзе ўдалечыні білі цяжкія гарматы...

— Гэта трэба зрабіць як мага хутчэй, таварыш генерал, — парушыў маўчанне госць. — Паводле даных, якія ёсць у нас, гітлераўцы меркавалі раней пабудаваць у Ноен-Клічке эксперыментальную базу для вытворчасці зброі масавага знішчэння!

— Газы?

— Ды не, не газы і не бактэрыі збіраліся там рабіць. Чыталі пра работу мужа і жонкі Кюры? Гітлер вырашыў выкарыстаць гэта адкрыццё з мэтай, вельмі далёкай ад ідэалаў, якімі кіраваліся французы. Словам, наша разведка ўстанавіла, што базу гэту яны ў Ноен-Клічке так і не пабудавалі, а вось палонных туды для гэтага будаўніцтва сагналі. Тысячы палонных, разумееце? У асноўным нашы, савецкія. Ёсць таксама французы, палякі, італьянцы. Цяпер над імі навісла пагроза знішчэння. Штурмаваць Ноен-Клічке будзе ваша дывізія. Трэба зрабіць усё магчымае і немагчымае, каб выратаваць людзей.

— Я вас зразумеў, Юрый Васільевіч.

— Цяпер мне хацелася б пагутарыць з таварышам, якому вы даручаеце выкананне задання.

— Маёр Мірзаян прыбудзе праз пяць мінут.

*

...Любке, расшпільваючы кабуру, памчаўся ўверх па шырокай каменнай лесвіцы. За ім, тупаючы цяжкімі ботамі, беглі салдаты дзяжурнага ўзвода.

У канцылярыі пачуўся стрэл. Любке кінуўся туды.

Абхапіўшы рукой адкрыты чамадан рацыі, да стала прыткнуўся афіцэр з І-га аддзела.

Са скроні ў яго збягала кроў, пісталет валяўся на падлозе, за некалькі сантыметраў ад правай рукі, якая бяссільна вісела. Любке крануў афіцэра за плячо. Той павольна ўпаў з крэсла. Ён быў мёртвы.

— Абшукаць будынак! Хутка! — загадаў Любке.

У пакой, расштурхаўшы гітлераўцаў, якія натоўпам стаялі ля дзвярэй, увайшоў капітан Штам, высокі, як заўсёды, падцягнуты і спакойны.

— Што здарылася? — спытаў ён так, быццам цікавіўся, якое сёння надвор'е.

— Здарылася тое, — ледзь стрымліваючы сябе, працэдзіў Любке, — што ў вас знайшла прытулак савецкая разведка! Хутчэй уключайцеся ў расследаванне.

Штам нахіліўся, і зазірнуўшы ў твар забітага, здзіўлена сказаў:

— Паглядзіце, куля ўвайшла ззаду... А яго пісталет у кабуры. Не паспелі выцягнуць. Гэта не самагубства. Я ведаю Курта. Не, гэта не самагубства!

— Ды які дурань можа сказаць, што гэта самагубства? — закрычаў Любке. — Мне не аналізы вашы патрэбны, мне патрэбны забойца!

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

Карэспандэнты аб сабе

## Як я стаў карэспандэнтам?

Пачалося ўсё гэта ў пачатковай школе. Тут мае першыя настаўнікі навучылі мяне не толькі роднай мове, але і грамадскай працы. Першыя заметкі пісаў я ў школьную сценгазету. Пісаў крытычныя і інфармацыйныя артыкулы на беларускай, рускай і польскай мовах. І таму сёння не згаджаюся я з поглядам некаторых бацькоў, што вывучэнне беларускай мовы паніжае дасягненні вучня па іншых прадметах. Я вывучаў тры мовы з выдатнымі вынікамі, хоць найбольш любіў матэматычна-фізічныя прадметы, якія і цяпер выкладаю ў школе, закончыўшы настаўніцкую студыю.

Хачу тут адзначыць, што з маёй пачатковай школы выйшла вельмі многа настаўнікаў, якія працуюць у цэлай краіне. Усё гэта заслуга настаўнікаў Янкі Анішчука, Зіновія Анхімюка і іншых. Яны зашчапілі ў нас усё тое, што звязана з патрэбаю чалавека пісаць аб усім добрым і аб тым, што яшчэ так не дамагае ў нашым жыцці.

Будучы ў сярэдняй школе, пачаў я пісаць шырэй. Першыя мае весткі падаліся ў бельскім радыёвузле, а потым у беластоцкім радыё. На з'ездзе карэспандэнтаў у радыё я атрымаў кніжную ўзнагароду як наймалодшы карэспандэнт. Быў гэта момант вялікага ўсхваляванне. Усе знаёмыя слухалі мае весткі па радыё. Адчуваў патрэбу пісаць дзеля таго, каб людзі маглі пачытаць і паслухаць аб сабе, аб сваёй вёсцы. Трэба было актывізаваць наша асяроддзе.

І вось вайсковая служба. Пішу ў вайсковыя газеты аб жыцці, клопатах і дасягненнях салдат. Усе публікацыі друкуюцца. Вярнуўшыся да настаўніцкай працы, стаў я карэспандэнтам „Нівы". Пісаў і пішу аб справах, якія нуртуюць людзей. Будучы ў сталіцы БССР — Мінску надрукаваў свой артыкул у сувязі са святам 22 ліпеня ў „Савецкай Беларусі". Атрымаў грашовую ўзнагароду. Усё гэта мабілізавала мяне да аднаго — пісаць. Аднак у жыцці бывае па-рознаму. Так і ў мяне: службовыя і грамадскія абавязкі, розныя жыццёвыя справы прывялі да перапынку карэспандэнцыйных кантактаў з „Нівай". Усё-такі грамадскае заангажаванне, зашчэпленае ў школе, само прымусіла пісаць далей.

У дынамічным жыцці краіны нельга абыйсці справы людзей. Пішу аб усіх праблемах свайго асяроддзя і для яго дабра. Прыемна, калі сустракаеш людзей ля кіёска „Рух", на пошце ці на прадпрыемстве, якія, беручы „Ніву" ў рукі, адкрываюць спярша сёмую старонку і сочаць за весткамі са свайго раёна. Сведчыць гэта аб ранзе друкаванага слова і яго патрэбнасці. І вось таму ў далейшай сваёй працы карэспандэнта буду крочыць разам з жыццём, разам з працуючым цяжка чалавекам, а не лодырам, кар'еровічам ці хуліганам.

**Аляксандр Закройшчык**

## Карыснае супрацоўніцтва

У першай палове лютага ў Бельску праводзіў свае заняткі 52-асабовы студэнцкі хор Варшаўскага універсітэта. Рэпетыцыі адбываліся ў бельскім доме культуры. У суботу, 12 лютага, даў хор вялікі канцэрт даўнейшай і сучаснай польскай і замежнай музыкі для жыхароў горада. Пасля канцэрта ўдзельнікі хору сустрэліся з уладамі горада. На сустрэчы абмеркавалася тэма супрацоўніцтва.

**Мікалай Няплоха**

### АЛІМПІЯДА

У студзені ў будынку сельскагаспадарчых школ у Бельску адбылася 18-ая алімпіяда ведаў аб Польшчы і свеце. У ёй прыняло ўдзел 340 асоб з усіх тыпаў школ. У лютым моладзь прыняла ўпершыню ўдзел у сельскагаспадарчай алімпіядзе. Гэта дзве вядучыя алімпіяды ў школе. У другіх алімпіядах моладзь прымае меншы ўдзел. Сярод іх выдзяляецца алімпіяда рускай мовы.

**Мікалай Няплоха**

## Пенсіі сялянам

Калі толькі на VI пленуме І сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк прапанаваў увесці ад 1980 г. пенсію сялянам, пачалася шырокая дыскусія, як будзе прызнавацца яна і калі. Крытэрый тут адзін: вартасць прадукцыі, прададзенай дзяржаве на пунктах скупу і злеўнях малака за апошнія гады перад пенсіяй. Бо ў нас яшчэ ёсць такія гаспадары (іх называюць „цванякамі"), што сам не гам і каму не дам. Свае сельскагаспадарчыя прадукты прадае на „чорным" рынку, бо там даражэй, і копіць грошы. Цяпер кожны гаспадар можа абяспечыць сябе пенсіяй на старасць. А здаралася ў нас, што суд змушаў дзяцей, каб абяспечвалі бацькоў на старасць.

**Віт**

### ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

У вёсцы Зубава ў Бельскай гміне быў такі кавалак вуліцы, што вясной і ўвосень можна было ўтапіцца ў вадзе і балоце. Без гумавых ботаў то і не прайсці. Гэтак было доўгі час, аж урэшце жыхары вёскі вырашылі наладзіць вуліцу. Пралажылі мосцік, які адводзіць ваду на пасбішча.

**Дубінка**

### ГЭТА ТАКСАМА ВАЖНАЕ...

У вёсцы Зубава, Бельскай гміны, ужо трэці год існуе клуб. Пісала я пра яго ўжо не раз у „Ніву". Цяпер з ма, трэба паліць у печах, дык вось бяда! Вугаль бельскія ўлады далі, а пра дровы забыліся. Сам вугаль не загарыцца. Клубовая Надзея Петручук прыносіла свае дровы, пучкі. „Ужо, — кажа, — надакучыла з канца вёскі на сярэдзіну насіць дровы. Ды і трэба ж дома паліць у печы". Сапраўды, дзе ж тут сэнс насіцца па вёсцы з пучкамі. Думаю, што гмінныя ўлады ў Бельску палепшаць нашу сітуацыю.

**Дубінка**

## Рэзервы

На VI Пленуме ЦК ПАРП праблемы сельскай гаспадаркі былі ў цэнтры зацікаўлення ўсіх нашых улад. І гэта вельмі добра. Каб пракарміць людзей, і то добра, трэба больш збіраць плёнаў з кожнага гектара зямлі. І кожны гектар павінен быць выкарыстаны як найлепш. Паглядзім, як гэта выглядае ў гміне Нараўка. Дзяржаўны фонд зямлі складаецца з 2487 га. А загаспадарана толькі 270 га надлясніцтвам і 275 га СКР-ам. Калі дадамо, што ўсё гэта ў 69 кавалках, то зразумеем цяжкасці, звязаныя з добрым гаспадараннем. У 1975 годзе гміна прыняла 713 га зямлі ад 132 гаспадароў, у 1976 г. — 844 га ад 118 гаспадароў. Пераважаюць тут дрэнна загаспадараныя землі, часта ў карчах, няма даездаў. Не вельмі хочуць тут гаспадарыць суседзі, бо зямля патрабуе шмат дадатковых укладаў. Аднак у мінулым годзе СКР з 113 га пасеваў прадала дзяржаве 133 тоны збожжа. Гэта была дапамога ў выкананні плана гміны, які прадбачваў 800 тон. Індывідуальныя гаспадары прадалі толькі 523 тоны. Калі глянем на тое, што жыхары гміны купілі, дык прапановы да далейшай працы самі насоўваюцца. Дык вось, жыхары выкупілі ў 1976 годзе 300 т хлеба, 137 т мукі, 68 т круп, 12 т макарону, 5 т пячэння і 454 т корму. Падсумоўваючы, атрымаем 976 тон. А прадалі 523 тоны збожжа. Як бачым, іншыя раёны дапамагаюць гміне Нараўка ў пракармленні жыхароў. Яшчэ горш, што апошні агляд гмін паказаў 442 га аблогаў і 304 га дрэнна загаспадаранай зямлі. Улады гміны стараюцца, каб палепшыць гаспадарку зямлёй. 84 га зямлі было рэкультывавана, ад 26 дрэнна гаспадаруючых сялян дзяржава прыняла 218 га. Усё гэта мала. Як гаворыць кіраўнік гміннай аграрнай службы Сяргей Койла, гэта не задавальняе. І праўда, вельмі многа рэзерваў як на адну гміну. Трэба многа намаганняў, каб кожны гектар радзіў, і то добра радзіў.

**Аляксандр Закройшчык**

### НА ВАЖНЫМ ПАСЯДЖЭННІ

Нядаўна ў Дубічах Царкоўных адбылося пленарнае пасяджэнне КГ ПАРП. Было запрошана многа таварышоў з вёсак Дубіцкай гміны: Ягаднікаў, Істока, Войшкаў, Тафілаўцаў. Удзел таксама прынялі госці з Варшавы і Беластока. Быў прачытаны ліст І сакратара ЦК ПАРП тав. Эдварда Герка. Заданні партыйных арганізацый, а таксама гміннага актыву на 1977 г. прадставіў Мікалай Чыквін — начальнік гміны. Пасля адбылася дыскусія. У спрэчках былі паказаны дасягненні і недахопы ў вёсках. Прысутныя абавязаліся далей узнімаць узровень сваёй працы на карысць дзяржавы і грамадства. Пасяджэнне вёў Васіль Сегень — І сакратар Гміннага камітэта ПАРП у Дубічах Царкоўных.

**М. Панфілюк**

### ВІНАВАТА ПОШТА

У „Ніве" за 20 лютага я прачытаў адказ на мой крытычны артыкул. Экспедыцыя „Руху" ў Гайнаўцы адказвае, што яна пастаянна дастаўляе „Ніву" на пошту ў Гайнаўцы ў пятніцу, акрамя аднаго раза (6.XII.1976 г.).

Значыць, вінавата пошта? Я больш дзесяці гадоў з'яўляюся карэспандэнтам „Нівы" і безупынна выпісваю яе, але аб кепскай рабоце пісьманосцаў з Трасцянкі ніколі не пісаў. Ад заснавання пошты ў Трасцянцы пісьманосец Уладзімір Андрэюк абслугоўвае нашу вёску і на яго скарг не было, а працуе ён каля 20 год.

Я чакаю шчырага адказу ад кіраўніка Кульгаўчыка. А можа праўду напіша раённы начальнік пошты ў Гайнаўцы? Толькі не вініце нашых пісьманосцаў. Яны працуюць добра.

**М. Лук'янюк**
Белкі

### ДАЙЦЕ МЕСЦА

Давялося мне быць у Беластоку і ехаць аўтобусам ПКС у Гайнаўку.

Пакуль не было аўтобуса, людзі сталі спакойна ў чарзе. Але калі аўтобус падышоў, тады натоўп людзей збіўся пад дзвярыма і ўзнік вялікі балаган.

Заўважыў я, што балаган гэты выклікае пераважна моладзь, якая даязджае на працу ў Беласток, а часта школьная моладзь.

Можа, прачытаўшы гэтую заметку ў „Ніве", засаромяцца тыя пасажыры і самі стануць даглядаць парадку пры ўваходзе ў аўтобусы.

Потым, едучы ўжо, я дзіваваўся, як моладзь сябе паводзіць. Сядзяць і гарланяць, а побач стаяць старэйшыя людзі, за 60 і больш гадоў. Чаму тая моладзь не жадае ўступіць месца старэйшай асобе? Ці, можа, думаюць яны, што самі ніколі старымі не будуць?

**М. Лук'янюк**

### БОЛЬШ МЯСА

Па ўсёй гміне Шудзялава адбыліся вясковыя сходы, на якіх чыталі пісьмо І сакратара ЦК ПАРП Эдварда Герка да сялян. Пісьмо выслухалі з вялікай увагай і кожны разважыў, што лепш зрабіць на сваёй гаспадарцы. А ў кожнай гаспадарцы знойдуцца рэзервы, каб больш гадаваць жывёлы. Праўда, у Шудзялаўскай гміне пастаўкі свіней і кароў павялічыліся. Калі ў лістападзе і снежні 1976 г. было на пункце скупу ў Шудзялаве 15-20 свіней, то ў студзені і лютым 1977 года было на пункце скупу 120-150 свіней. Сяляне зразумелі, што трэба даць больш мяса краіне.

**Віт**




Я чытаў у „Ніве", што вашы рабяты хочуць перапісвацца з савецкімі аднагодкамі. У мяне ёсць некалькі малодшых братоў і сясцёр. Яны ў школе ўдзельнічаюць у рабоце Клуба інтэрнацыянальнай дружбы. Іх у мяне чацвёра: 17 год, 15 год, 14 год і 12 год. Усе яны хочуць перапісвацца з рабятамі з Польшчы. У іх клуб уваходзяць школьнікі ад 8 да 18 год.

Я б таксама з вялікай цікавасцю перапісваўся з беларусамі з Польшчы.

Пішыце на адрас:

734037 г. Душанбе — 37
ул. Чернышевского, дом 12, кв. 9
Левшенкову В. М.

### ВЯСКОВЫ СХОД

15 лютага ў вёсцы Белкі адбыўся вясковы сход. Прадстаўніца малачарні з Гайнаўкі Ніна Андрэюк прачытала справаздачу за мінулы год.

Прадстаўнік спулдзельні „Вітаміна" з Бельска Юрка Янік пазнаёміў сабраных з дзейнасцю сваёй спулдзельні за мінулы год і прадставіў заданні на гэты год. Сказаў ён, што спулдзельня пашырыла кантрактацыю і скупку гародніны.

Прадстаўнік ГС у Нарве Мікалай Пост расказаў аб дасягненнях і недахопах нараўскага ГС-у.

З ВСГР быў намеснік старшыні Мікалай Пятроўскі. Ён прадставіў дзейнасць і дасягненні сваёй спулдзельні, сказаў, якую карысць дае кааперацыя аднавяскоўцаў са спулдзельняй у напрамку жывёлагадоўлі.

Інструктар сельскагаспадарчай службы з праўлення гміны ў Нарве Генрык Катовіч расказаў аб планах гміны, аб перадачы гаспадарак дзяржаве за пенсію і аб утварэнні дзяржавай фонду на пенсіі для сялян.

Сяляне найбольш скардзіліся на недахоп сенажацяў у сваёй вёсцы — усяго 25 працэнтаў агульнай зямлі, цяжка пашыраць жывёлагадоўлю.

Варта, каб часцей адбываліся такія сходы.

**М. Лук'янюк**

## Няма дзе вучыцца

У Дубічах Царкоўных ідзе курс кваліфікаванага гаспадара. Кожны з яго ўдзельнікаў заплаціў па 120 зл. за вучобу. Але як гэты курс праходзіць? Адны слёзы. Брак памяшкання на вучобу. Святліца занята курсантамі, якія хочуць здаць экзамен на трактар. Смешна, каб для 24 асоб (курс кваліфікаванага гаспадара) не было дзе вучыцца! Школьны ж будынак вечарамі пусты, чаму туды не ўпусціць? Аднак не дазваляюць у школе вучыцца, як бы маладыя сяляне на плячах маглі разнесці стары будынак школы.

**П. Д.**

### НЕ ТАК ЛЁГКА ВЫКРУЦІЦЦА

У трэцім нумары „Нівы" ад 16 студзеня быў апублікаваны адказ начальніка Бельскай гміны на маю публікацыю „Няўжо так і прападзе". Начальнік Бельскай гміны адказвае, што на дарозе ад Кнаразоў праз Рэпнева да шашы Бельск—Беласток у месяцы лістападзе мінулага года працавалі машыны, якія быццам бы выраўналі дарогу. Але гэта няпраўда! Бо ў мінулым годзе ніхто не бачыў там ані машын, ані ніякіх спецыялістаў.

А мусіць начальнік яшчэ і не ведае, колькі грамадскай работы кнаразоўцы ўлажылі на вуліцы ў вёсцы. Нарабілі нават краевугольнікаў на палову вёскі, бо нам таксама абяцалі збудаваць на вуліцы цвёрдую паверхню.

**Міхал Кірылюк,**
Кнаразы

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**ДА ЗАМЕТКІ „СНЕГ НА ТРАТУАРАХ", „Ніва" № 5 (1092) ад 30 студзеня 1977 года.**

**Адказвае:**

Dyrekcja Przedsiębiorstwa Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Hajnówce.

Przedsiębiorstwo Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Hajnówce nie stwierdziło, aby w dniach od 8 do 14 stycznia br. chodniki były zasypane śniegiem, który utrudniałby ruch dla pieszych, ale powyższy fakt mógł mieć miejsce na tych odcinkach ulic, za które odpowiedzialni są właściciele względnie zarządcy nieruchomości.

Nadmieniamy, że Przedsiębiorstwo ma obowiązek prowadzenia odśnieżania jezdni i chodników tylko na wyznaczonych odcinkach ulicy. Pozostałe odcinki ulic winni oczyścić w porze zimowej zarządcy względnie właściciele nieruchomości.

Ponadto informujemy, że zgodnie z § 23 ust. 1 Zarządzenia nr 35 MGK z dnia 27 I 1971 roku czas na zgarnianie śniegu nie powinien przekroczyć 6 godzin od chwili ustania opadów.

Z-ca Dyrektora
d/s technicznych
mgr inż. Piotr Bujnowski

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

